ВІЦЕБСКАЯ
# ТРЫБУНА

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНАЕ ВЫДАННЕ №2 ВЕРАСЕНЬ 2000 ГОДА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА БЯСПЛАТНА




# Агонія

Пуцін атрымаў скіпетр агаnізуючай Імперыі. Калісьці магутную, яе зараз курчыць у сутаргах.

Ядзерная дзяржава не ў стане адолець тэхнагенныя катастрофы, што абрынуліся на яе. Адзнакі сілы і магутнасці: найсучаснейшая падводная лодка і найвышэйшая на кантыненце вежа гінуць не дачакаўшыся хаця б колькі дзейснай дапамогі. Вадалазы не маюць абсталявання каб ратаваць пад вадой, пажарныя — каб тушыць на вышыні. Сродкі, што маглі б пайсці на такое абсталяванне, выкінутыя ў выглядзе бомбаў на Чачню.

Замест таго, каб ратаваць, яны забіваюць...


Vesti.ru


IREX\ProMedia

## Весткі

На 30-га жніўня ў Віцебскай вобласці зарэгістравана 90 прэтэндэнтаў на месцы ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. 16 кандыдатаў вылучаныя палітычнымі партыямі, 7 — працоўнымі калектывамі, 49 — шляхам збору подпісаў. Ёсць і такія, што вылучаныя адразу некалькімі спосабамі (18 кандыдатаў). Найбольшую колькасць кандыдатаў вылучыла ПКБ (12), затым ідуць ЛДПБ (6), Беларуская патрыятычная партыя (4), Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці (3), БСДП «Народная грамада» (1), Аграрная партыя (1) і КПБ (1).

• • •

Віцебскае аддзяленне БСДП «Народная Грамада» ў пятніцу 25-га жніўня арганізавала пікет у цэнтры гораду. Сацыяльна накіраваны пікет праходзіў пад лозунгам «Партыя сацыял-дэмакратаў — супраць зьбядненьня народу». Таксама ўдзельнічалі сябры БНФ «Адраджэньне», прадпрымальнікі і шэраг актывістаў віцебскіх няўрадавых арганізацыяў. Пікетоўцы трымалі плакаты з даволі трапным зместам: «Мне ня трэба такі «бацька», лепей буду сіратой», «Ураджай зьбіраем, але ў кішэнях нічога ня маем», «Саша! Хоккеем сыт не будешь». Акцыя сабрала каля 30-ці ўдзельнікаў.

• • •

31-га верасня ў Воршы Кансэрватыўна-хрысьціянская Партыя БНФ правяла пікет супраць аб'яднання Беларусі з Расеяй. Пікетоўцы трымалі бел-чырвона-белыя сцягі і лозунгі: «Не аддадзім Беларусь Расеі», «Лукашэнку ў адстаўку!». Распаўсюджваліся звароты З. Пазьняка. Да акцыі далучыліся супрацоўнікі былой газэты «Куцейна» і сябры свабоднага прафсаюзу. У пікеце прыняло ўдзел 15 чалавек. Затое міліцыянтаў, якія ахоўвалі пікетоўцаў, было ў два разы болей.

ЖЫЦЦЁ

# Куды скокне «Віцязь»?

Ён даўно зрабіўся адным з сімвалаў не толькі горада над Дзвіной, але — у пэўнай ступені — усёй Беларусі. Нават у самым небагатым доме тэлевізар сёньня — рэч першай неабходнасці. І «Віцязь» працуе, нараджае ўсё новыя пакаленні хатніх монстрыкаў-улюбёнцаў, удасканальвае іх звонку і з сярэдзіны. Толькі так ужо атрымліваецца апошнія гады, што чым інтэнсіўней і паспяховей праца, тым горш гэта адбіваецца на матэрыяльным становішчы завода. Зрэшты, у краіне рынкавага сацыялізму і праваслаўнага атэізму чымсьці звышнатуральным такая з'ява не выглядае — нармалёвы вынік палітыкі абсурду.


IREX\ProMedia

Размова пра іншае. Для віцяблянаў завод такога маштабу, апрача ўсяго іншага, азначае немалую колькасць працоўных месцаў. А значыцца, хай невялікі, хай з пэўнымі затрымкамі, але заробак больш як для пяці тысячаў гараджанаў. І вось значнай іх частцы пагражае небяспека. Справа ў тым, што дзеля таго, каб давесці рэнтабельнасць прадпрыемства да нуля (пра тое, што завод можа даваць прыбытак, размову ніхто ўжо і не пачынае), акрамя шэрагу разнастайных перайтварэнняў, па самых сціплых падліках, трэба зволніць не меней як паўтары тысячы чалавек. Ну, скажам, не адразу, а ў некалькі этапаў, але абсалютна неабходна.

Дзеля першага этапу, да прыкладу, аддзел галоўнага канструктара, дзе працуе каля 130 спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, першапачаткова планавалася скараціць на 16 чалавек. Што ж, пры пераходзе ад татальнага сацыялізму да рынкавага, з якім бы «чалавечым ліцом» ён не быў, становішча зразумелае, хоць і сумнае для непазбежных нешчаслівўцаў, якім у самым хуткім часе будзе адмоўлена ў праве працаваць на «Віцязі». Цікава другое. У гэты самы аддзел улетку, пасля абароны дыпломаў, былі прынятыя на працу 10 маладых спецыялістаў. Пасля іх уладкавання адбываецца перападлік і наверсе абвяшчаецца саламонава рашэнне: скарачэнню на першым этапе падлягаюць 16+10=26 чалавек. Такая ўжо арыфметыка.

Але навошта браць адной рукой тое, што з другой усё роўна давядзецца выкінуць? Думаеце, на «Віцязі» безгаловыя кіраўнікі? Ну што вы! Проста абмінуць пастанову аднасна абавязкова га 100%-га размеркавання выпускнікоў навучальных устаноў не ўяўляецца магчымым. Вось і даводзіцца насуперак звычайнай чалавечай логіцы спалучаць неспалучальнае: дзяржаўную палітыку і інтарэсы прадпрыемства. Нязручна, але што зробіш — не тапіцца ж «Віцязю» ў багне сучаснай беларускай эканомікі. Хоць дагары нагамі, а наперад рухацца трэба.

Сабіна РАДЗЬКО

## СЬВЯТА АРШАНСКАЕ ПЕРАМОГІ



**9-га верасьня** адбудзецца традыцыйны фэст, прысьвечаны ўгодкам славутай Аршанскай бітвы. Гасьцей чакаюць у Воршы а **15:00** на аўтобусным прыпынку «Чыгуначны вакзал» (ад'езд на Крапівенскае поле будзе арганізаваны).

**У праграме:**

- Імша па палеглых героях Аршанскае бітвы.
- Рыцарскі турнір.
- Пэрфоманс Алеся Пушкіна.
- Сьпевы беларускіх бардаў.
- Ад'езд у Воршу 10-га верасьня ў 10:30.

**Просьба паведаміць пра колькасьць гасьцей да 5.09 па тэлефонах:**

**(261) 5-25-40, 4-71-07**

## Вёсткі

Прайшло чарговае пасяджэньне Віцебскай каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў. Сябры Рады ўхвалілі рашэньне аб'яднанай апазіцыі прыняць удзел у назіраньні за восеньскімі выбарамі ў Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Па словах старшыні гарадской Рады БНФ «Адраджэньне» В. Шалухіна, назіранне за выбарчым працэсам усебакова спрыяе байкатаванню маючых адбыцца выбараў. На паседжанні Каардынацыйнай Рады было таксама вырашана распрацаваць тактыку агульнага байкоту. Першым крокам у гэтым накірунку стане выпуск і распаўсюджванне адпаведнага агітацыйнага матэрыялу.

* * *

Прадстаўнікі пастаўскіх дэмакратычных аб'яднанняў сцвярджаюць, што ўжо на першых этапах правядзення перадвыбарчай кампаніі было дапушчана шмат сур'ёзных правапарушэнняў. У Глыбокім група выбаршчыкаў сабрала патрэбную колькасць подпісаў за вылучэнне ў склад выбарчай камісіі па адной з акругаў мясцовага медыка, што прытрымліваецца дэмакратычных поглядаў. Але яго, як і шэраг іншых непажаданых у выбарчых камісіях асобаў, не зарэгістравалі без сур'ёзнай матывацыі. Праўда, каб канчаткова не выкрыць адкрытае самаўпраўства, па Віцебскай вобласці ў склад камісіяў былі ўключаны 9 прадстаўнікоў ПКБ і 4 актывісты ЛДПБ. Напрыклад, у Паставах выбарчы працэс арганізуюць праверaныя раней старшыня калгасу «Дружба» Б. Шылько і два пенсіянэры-камуністы.

* * *

Прадстаўнікі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ падалі ў менскую штаб-кватэру АБСЕ заяву з патрабаваннем зняць з пасады кіраўніка Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ. У заяве выказваецца заклапочанасць тым, што АБСЕ «рыхтуе і агітуе за ўдзел у псеўдавыбарах дыктатара».

* * *

Вядомыя беларускія палітыкі — кіраўнік грамадскага аб'яднання «Яблоко» Вольга Абрамава, актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Навасяд, журналіст Аляксандр Фядута —накіравалі у АБСЕ пасланне, дзе просяць даслаць назіральнікаў на намеркаваныя парламенцкія выбары дзеля забеспячэння іх празрыстасці. На іх думку, назіранне за выбарамі не азначае іх прызнання ці непрызнання з боку еўрапейскіх структураў; наадварот, пры адсутнасці назіральнікаў Еўропа не будзе мець юрыдычных падстаў, каб меркаваць пра тое, што адбываецца на Беларусі.

* * *

На «Віцязі» з 2 кастрычніка па 11 снежня плануюць правесці агляд мастацкай творчасці працаўнікоў. Пераможцам, апрача ганаровага права паўдзельнічаць у навагоднім канцэрце, абяцаюць грашовыя прэміі: за першае месца — 30 мінімальных заробкаў, за другое — 20, за трэцяе — 10. Што ж, мабыць, на фоне набліжэння скарачэння і затрымак заробку хоць кагосьці парадуе агляд мастацкай самадзейнасці.

* * *

Целы расейскіх маракоў-падводнікаў з атамнай субмарыны К-141 «Курск» будуць паднятыя ў канцы верасня. Каштаваць гэтая аперацыя будзе звыш 7 млн. амерыканскіх даляраў. Удзел у ёй прымуць як расейскія, так і нарвежскія глыбінныя вадалазы. Над кожным адсекам патанулай субмарыны будзе «прасечанае вакно», праз якое і будуць дастаўвацца на паверхню целы палеглых маракоў. Да вокнаў будуць спушчаныя батыскафы з трыма вадалазамі ў кожным: два расейскіх і адзін нарвежскі. У лодку нарвежцы ўваходзіць не будуць. Расейскі бок сцвярджае, што аб гэтым яны папрасілі самі.

Лодку ж падымаць на паверхню будуць толькі праз год — столькі часу патрабуе падрыхтоўка гэтай аперацыі. Замежнікі да яе прыцягнутыя не будуць. Навукоўцы з КБ «Рубін» запэўніваюць, што тэхналогія, якую прыменяць дзеля пад'ёму субмарыны, дазволіць у далейшым ратаваць тонучыя караблі. Кошт гэтай аперацыі будзе складаць каля 100 млн. даляраў.

* * *

Адзін з буйнейшых мегаполісаў планеты — Масква — застаўся без інфармацыйнага сілкавання. У выніку пажару на Астанкінаскай тэлевежы перарвалася перадача цэнтральных тэлеканалаў на Маскву і Маскоўскую вобласць.

Важнасць тэлебачання для кіраўніцтва выявілася адразу, бо Пуцін у катэгарычным тоне загадаў «восстановить вещание в течение недели». Гэткай аператыўнасці прэзідэнт Расеі не выяўляў нават пад час катастрофы падлодкі «Курск».

Аднак, нягледзячы на катэгарычнасць «высочайшего повеления», прагрэсу не назіраецца. Тэлеканалы дзейнічаюць паасобку, да таго ж дадаюцца як фінансавыя, так і палітычныя супярэчнасці паміж федэральным кіраўніцтвам і мэрыяй Масквы. Таму зараз сярод масквічоў вялікім попытам карыстаюцца спадарожнікавыя сістэмы і разнастайная відэаапаратура.

**Ул. інф., БАРЦ**

АКТУАЛЬНА

# Наш байкот рэжыму



**Юры Корбан, сябра БНФ «Адраджэнне», кіраўнік ЦМІ «Контур»**

Апазіцыя на выбары не ідзе. Нічога дзіўнага. Гуляць у гульню, дзе загадзя вядома, што правілы будуць парушаныя, і ты так ці іначай прайграеш, жаданне невялікае. Нават калі б рэжым пад ціскам міжнароднай супольнасьці паспрабаваў зрабіць гэтыя выбары свабоднымі і дэмакратычнымі, і апазыцыя заняла б пачэсныя месцы ў «палатцы», усё адно карысць невялікая. У краіне, дзе ўсе рычагі ўлады вольна і нявольна сканцэнтраваны ў руках аднае асобы, ад парламенту анічога не залежыць. Ісці на выбары ў такіх умовах — марнатраўства сілаў, розуму і сродкаў. Дзе гарантыя таго, што новаабраныя дэпутаты заўтра не знікнуць без следу, як Ганчар ці Завадскі, ці іх не пасодзяць, як Клімава з Кудзінавым. Калі ва ўладзе дыктатар, спадзявацца на «чэснасць і парадачнасць» не выпадае. Сёння няма ніякага парламенту. Ёсць купка ківалаў, што «адабраюць курс нынешняга рукаводства». Будзе сярод іх апазіцыя ці не — справа не вельмі істотная. Куды істотней не страціць падтрымку міжнароднай супольнасці. Уявіце, мы кажам, што выбарчая кампанія не можа быць дэмакратычнай, бо няма доступу да СМІ, бо ў краіне вядзецца палітычны пераслед, бо немагчыма арганізаваць татальны кантроль за падлікамі галасавання і пры гэтым выстаўляем сваіх кандыдатаў. Хто мы пасля гэтага ў вачах цывілізаванага сусвету — дурні ці палітычныя самазабойцы. Ісці, каб прайграць — гэта не па-еўрапейску, нават не па-чалавечы.

Рэжым добра разумее, што за ўдзелам апазіцыі стаіць прызнанне выбараў сапраўднымі і справядлівымі, а там і да прызнання легітымнасці А. Лукашэнкі адзін крок. Такой форы рэжыму даваць нельга. Хопіць, столькі часу гулялі ў круглыя сталы і перамовы, верылі ды спадзяваліся. У выніку — толькі пераследы, суды ды знікненні. Пара ўжо зразумець, што ўсё тое, што робіцца дыктатарам, не можа быць шчырым і сапраўдным. А значыць, нам разам з ім рабіць няма чаго. Нашае месца мусіць заняць байкот. Але байкот не ціхі, не маўклівы. Байкот актыўны і дзейсны. Мы не ідзем на выбары, але выходзім на вуліцы: на маршы пратэсту, на збор подпісаў за незалежнасць і «Народны рэферэндум», на страйкі і акцыі народнага непадпарадкавання. Мы распрацоўваем праграму выхаду з крызісу і рыхтуемся да змены ўлады — прэзідэнцкіх выбараў. Гэты і ёсць наш байкот рэжыму.

# З чаго выбіраць?

**Яраслаў Манцэвіч, ВСМ «Верас», студэнт 1-га курса ВДУ**





**Віктар Шляхцін, «Малады Фронт», супрацоўнік фірмы «Марка»**

Выбары — рэч, безумоўна, неабходная: без яе немагчыма ўявіць сабе дэмакратычны лад жыцця. Але тое, што адбудзецца 15 кастрычніка на Беларусі, назваць патрэбным для нашага грамадства нельга.

Справа ў тым, што Парламент у нашай краіне, згодна з рэдакцыяй'96 Канстытуцыі, зараз мае абмежаваныя паўнамоцтвы, якія можна параўнаць адно што з паўнамоцтвамі Народных сходаў дзяржаў г.зв. «трэцяга свету». У цывілізаванай жа Еўропе сітуацыя зусім іншая. Так, можна прывесці прыклад Германіі, дзе улада належыць Парламенту, а прэзідэнт мае мізэрныя паўнамоцтвы. Там ён з'яўляецца сімвалам нацыі, але ніяк не палітычнай фігурай. І што, гэтая цэнтральна-еўрапейская дзяржава пакутуе ў галечы?.. Таксама ўзгадаем Вялікабрытанію. Тут сітуацыя дакладна паўтарае Германскую. Манарх не ўдзельнічае ў палітычным жыцці краіны, але з ім атаясамляюць само каралеўства, яго моц і традыцыі. Зноўку ж, беднай Вялікабрытанію назваць нельга. Хутчэй наадварот.

У Беларусі ж створана жорсткая вертыкаль улады, якая павінна забяспечваць «дысцыпліну і парадак», але насамрэч мы маем тое, што маем... Узнікае пытанне: а ці патрэбны нам такі палітычны лад? Адказ відавочны.

Вяртаючыся да выбараў: што дасць народу новаабраны Парламент? Ды нічога. Асабліва калі зважаць на тое, што ён не будзе прызнаны краінамі свету (за рэдкімі выключэннямі). Вясной наступнага году адбудуцца прэзідэнцкія выбары, чакаць засталося нядоўга. Калі на іх пераможа дэмакрат, то наш Нацыянальны сход будзе, хутчэй за ўсё, распушчаны, і будуць абвешчаныя новыя, дэмакратычныя выбары дэпутатаў. Калі ж кіраўніком дзяржавы абяруць Аляксандра Лукашэнку, то Беларускі Парламент так і застанецца пад абцасам Прэзідэнта. Такім чынам, карысці ад такой «уладнай» структуры ўсё роўна не будзе.

Перш за ўсё трэба падумаць, на што здольны і якія прадстаўнічыя паўнамоцтвы мае прадстаўнічы ворган, у які мусяць адбыцца выбары. Мала таго, што пасля 96-га году, калі быў разагнаны Вярхоўны Савет, дэпутаты, якія кінулі выклік рэжыму Лукашэнкі, былі пазбаўленыя магчымасці працаваць у дзяржаўным заканадаўчым воргане, сама штучна створаная так званая «палата прадстаўнікоў» была пазбаўленая паўнамоцтваў, дадзеных Канстытуцыяй Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь. Таму нават калі б і была магчымасць абраць дэпутатамі сумленных людзей, што дбалі б пра лёс Беларусі і яе народа, ці змаглі б яны штосьці змяніць, працуючы ў такой «палацы»?

Гэта — калі б была магчымасць. Але ці можа ў цяперашніх умовах кандыдат, які не ставіцца лаяльна да пануючага рэжыму, данесці сваю пазіцыю да выбаршчыкаў, калі ўсе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца пад пільнай цэнзурай улады, калі з дзяржаўнага тэлебачання і друку штодня паліваюць брудам і зневажаюць людзей, нязгодных з пазіцыяй уладаў? Палітычным дзеячам, якія наважыліся смела і актыўна супрацьстаяць рэжыму, інкрымінуюцца розныя надуманыя абвінавачванні і ўзбуджаюцца крымінальныя справы, другія проста без вестак знікаюць, трэція вымушаны шукаць прытулак ад праследу за межамі Беларусі. Такія «зачысткі» робяцца дзеля правядзення «чэсных» выбараў.

Таму, на маю думку, каб правесці ў краіне справядлівыя выбары, трэба аднавіць канстытуцыйную законнасць, а гэта азначае скасаваць вынікі антыдзяржаўных і цалкам сфальсіфікаваных рэферэндумаў 1995 і 1996 гадоў, вызваліць палітычных вязняў, спыніць пераслед як асобных палітычных і грамадскіх дзеячоў, так і палітычных партый і рухаў. Даць магчымасць выступаць у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі ўсім палітычным партыям і грамадскім аб'яднанням, усталяваць забыты ўжо плюралізм, пра які шмат казалася напрыканцы 80-х.

У іншым выпадку гэта будуць выбары без магчымасці выбару.

ШКОЛКА

# Беларусь маладая

Распачынаецца апошні навучальны год стагоддзя. Прыбраныя і ўсхваляваныя педагогі з вучнямі сабраліся на ўрачыстых лінейках. Для сур'ёзных шасцігодак, што пакуль нясмела пазіраюць на сваю настаўніцу, празвінеў самы першы званок. Мінула напружаная падрыхтоўка да навучальнага году, у якой узялі ўдзел усе, хто мае да гэтага непасрэдныя ці ўскосныя адносіны. Пакуль школьнікі развітваліся з канікуламі, а бацькі набывалі ўсё неабходнае дзеля вучобы, педагогі рабілі ўсё неабходнае, каб навучальны год 2000-2001 пачаўся паспяхова.

Па словах загадчыка аддзелам адукацыі Віцебскага гарвыканкама Віктара Прэснякова, усе агульнаадукацыйныя ўстановы г. Віцебска падрыхтаваныя дзеля пачатку навучальнага году, хоць гэта і каштавала немалых намаганняў гарадскім уладам і дырэктарам школ.

Сетка ўстаноў досыць шырокая: 44 дзённыя школы, 4 вячэрнія, 2 гімназіі, 1 ліцэй, 105 дзіцячых садкоў, 2 школы-інтэрнаты, 8 дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ, 5 пазашкольных устаноў.

Апрача гэтага ёсць яшчэ спецыяльныя навучальныя ўстановы для дзяцей з недахопамі у псіхафізічным развіцці. У гэтым годзе ў рамках рэалізацыі праграмы «Дзеці Беларусі» адчыняць дзверы дзве новыя ўстановы — Цэнтр карэкцыйна-развіваючай адукацыі і рэабілітацыі і Дзіцячы сацыяльны прыют №1.

Шмат у якіх школах «у дэфіцыце» настаўнікі англійскай мовы, гісторыі і тэхнічнай працы. І не дзіўна — тыя, хто добра ведае замежную мову, зараз уладкоўваюцца на працу, за якую можна атрымаць больш-менш прыстойныя грошы, а не тыя капейкі, што атрымлівае беларускі настаўнік. Гэты род дзейнасці за апошнія некалькі год зрабіўся надзіва непрэстыжным. Праўда, у рэзерве ёсць выкладчыкі-пенсіянеры, якія і ўратуюць становішча. У гэтым годзе рамонт сяк-так быў зроблены ва ўсіх школах, дзеля шэрагу школ і дзіцячых садкоў набытая новая мэбля, але новыя навучальныя аб'екты не будаваліся.

У сувязі са зніжэннем нараджальнасці ў краіне першакласнікаў штогод меншае прыкладна на тысячу чалавек. Для параўнання: у траўні гэтага года было выпушчана 4800 вучняў чацвёртага класа, а ў верасні прынята ў першы клас 3400 чалавек. І гэта не можа не палохаць: ці не пагражае нам у самым хуткім часе літаральнае ператварэнне ў краіну пенсіянераў, а там і выміранне?

**На пытанне карэспандэнта: «Ці ёсць сэнс у нашай краіне адчыняць прыватныя школы і дзіцячыя садкі?» Віктар Прэснякоў адказаў:**

—Ствараць прыватныя школы і садкі ніхто не забараняе. Але які ў гэтым сэнс? У звычайным дзіцячым садку бацькі аплочваюць толькі адну дзесятую частку ўтрымання дзіцяці. А кіраўнік прыватнага павінен будзе самастойна думаць пра падбор кадраў, харчаванне і ўтрыманне дзяцей, аплату камунальных і іншых паслуг. Адпаведна, і бацькоўская плата будзе нашмат вышэйшая.

Зрэшты, каб і знайшоўся, скажам, у Віцебску чалавек, які б не збаяўся «самастойна думаць» пра навучанне і выхаванне моладзі, наўрад ці хапіла б сілы прабіцца праз непарушнае супрацьстаянне наладжанай сістэмы. Так ці інача, прыватныя школы і садкі ў нас пакуль не распаўсюджваюцца. Але навучанне дзіцяці ў звычайнай школе таксама абыходзіцца бацькам не танна.



**«Папаўненне» у СШ №32 г. Віцебска**

Вось прыблізны спіс рэчаў, патрэбных вучню малодшых класаў і коштаў на іх:

Касцюм — ад 10 да 15 тыс.
Гальштук — 500 руб.
Касцюм спартыўны — 6500-10000.
Спартыўны абутак — 1700-2800.
Туфлі — 4500-7000.
Шкарпэткі — 400-600.
Кашуля — 3500-4500.
Камплект бялізны — 1300-2000.
Зменны абутак — 3000-6000.
Ранец — 5-10 тыс.
Кветкі (гладыёлусы) — 800-1000
ружы —1500-2000
герберы, цыніі — 1500.
Стрыжка — 600-800.
Альбом для малявання — 800.
Сшытак — 44-79.
Вокладка для сшытка — 10.
Пластылін — 350-500.
Клей — 300-400.
Лінейка — 50-80.
Каляровыя алоўкі — 900-1500.
Каляровая папера — 300-500.
Каляровы кардон — 300-400.
Гумка — 60-80.
Вастрылка — 100-200.
Набор літар і лічбаў — 176.
Нажніцы — 500.
Вокладкі для кніг — 250.
Камплект падручнікаў для першага класа — 663 р.

Аўтар гэтых радкоў зараз перажывае хвалюючы і адказны перыяд, выпраўляючы сына ў падрыхтоўчы клас. Апроч радасці і гонару, першавераснёўскія клопаты прынеслі шмат беганіны па крамах у пошуках патрэбных рэчаў. Увесь «набор першакласніка» — ад касцюма-тройкі да кветак і пісьмовых прылад — абышоўся за 35 тысяч рублёў. Але чаго не зробяць бацькі дзеля любімага дзіцяці, на якое ўскладаецца столькі надзеяў? Вось і аддаюць, не вагаючыся, месячны заробак. А калі ў сям'і двое-трое школьнікаў, то, адпаведна, больш. Дасць Бог, тыя, што ідуць зараз на свае першыя ўрокі, дажывуць да лепшага часу і не застануцца непатрэбнымі сваёй краіне.

**Таццяна ЧАБАТАРОВА**

# Роздум на школьным ганку

Пачатак новага навучальнага году — гэта заўжды канферэнцыі, нарады, педсаветы. Падвядзенне вынікаў і планы на будучае. Трэці год ідзе рэформа агульнаадукацыйнай сістэмы. Новыя тэхналогіі, дыферэнцаванае навучанне — калі раней усе класы і па знешнім выглядзе, і па адзнаках у журнале мала адрозніваліся, то зараз усё больш адчувальнай робіцца розніца паміж спецыялізаваным ліцэйскім ці гімназічным класам з падабранымі педагогамі і дзецьмі і класам, дзе атрымліваюць веды тыя, каму не пашчасціла пры тэставанні ці праз пратэкцыю трапіць у «эліту». Адны, як, напрыклад, выпускнікі тэхналагічнага класа ліцэя №1, усе без выключэння паступаюць у прэстыжныя вузы на бюджэтную форму навучання. Другія, у тым самым будынку, у школе №37, застаюцца на другі год без якіх бы там ні было светлых перспектываў. І гэта натуральна — галоўнае, каб на старце ўсе мелі роўныя магчымасці. Канешне, так не атрымліваецца: да старога савецкага фактару паспяховасці — знаёмстваў наверсе, дадаецца другі — грошы.

Новыя школы ў гэтым годзе ў эксплуатацыю не здаваліся — ды і навошта, калі першакласнікаў штогод менее. Адзін момант цешыць з гэтае сумнай нагоды — мабыць, хутка ў віцебскіх школках скасуюць другую ды трэцюю змены, і не будуць вучні вяртацца са школы пазней, чым іх бацькі — з працы. А тое, што з 1 верасня ў Віцебску пачынае працу дзіцячы сацыяльны прыют №1 і цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі — добра, хоць і вельмі сумна, калі ў краіне ўсё вастрэйшая патрэба ў падобных установах.

Усё менш жаданай для выпускнікоў ВДУ робіцца прафесія настаўніка, набыць якую, уласна кажучы, яны імкнуліся, паступаючы ў гэтую навучальную ўстанову. І хто можа папракнуць іх гэтым, калі стаўка маладога спецыяліста складае пятнаццаць з паловай тысячаў рублёў на месяц. Як пражыць на такія грошы?

У гэтым годзе, да прыкладу, *ніводзін* з хлопцаў-выпускнікоў факультэта фізічнага выхавання не пажадаў працаваць па спецыяльнасці ў школах Віцебшчыны. Што ж, мужчыну, ды яшчэ загартаванаму фізічна, лягчэй уладкавацца ў жыцці. А ў школы ідуць дзяўчаты — без блату, без спадзявання на прыстойны заробак, але са шчырай верай у тое, што ім удасца пасеяць «разумнае», «добрае», «вечнае» ў дзіцячых душах. І добра, калі гэтае насенне дасць праз гады адпаведныя парасткі.

**Сабіна РАДЗЬКО**

ПРАБЛЕМЫ

# Паміж асіміляцыяй і незалежнасцю

**«Для утверждения русского владычества в Северо-Западном крае необходимо... в школах преподавать... преимущественно русскую и славянскую православную грамоту...»**

*М. Мураўёў (падаўляў паўстанне ў Беларусі і Літве ў 1863-64 гг.)*

У 1928 г. на Беларусі было 80% беларускіх школ. У 1931 г. па-беларуску навучаліся 88% дзяцей (у 1988 г. толькі 14%).

Ідэя, выказаная М.Мураўёвым, была злёгку мадэрнізаваная Сталіным у 1930 г. на XVI з'ездзе ВКП (б), дзе ён выказаўся ў тым сэнсе, што нацыянальным культурам трэба «создать условия для их слияния в общую культуру с одним общим языком» (зразумела, расейскім).

> **Даведка**
>
> **81,2% насельніцтва назвалі сябе беларусамі, 85% з іх роднай мовай лічаць беларускую, а 41,6% карыстаюцца беларускай мовай у побыце.**

У пасляваенным 1946 г. у Менску было толькі 28 школ, 14 з якіх яшчэ былі беларускімі. У 1953 г. з 46 менскіх школ беларускіх было толькі 9. Ужо ў 60-я гады ва ўсіх буйных гарадах і большасці мястэчак Беларусі спынілі існаванне ўсе беларускія школы. Беларускімі заставаліся, як правіла, вясковыя, па большасці «малакамплектныя» школы. У выніку ў 1989 годзе ў беларускіх школах навучаліся 20,6% вучняў, у расейскіх 77,7%, у змешаных 1,7%. Варта адзначыць, што ў старэйшых класах беларускіх школ шмат якія прадметы выкладаліся і выкладаюцца на расейскай мове.

90-я гады прынеслі Беларусі незалежнасць, адраджэнне нацыянальнай культуры і нацыянальнай школы, пашырэнне сферы ўжывання беларускай мовы ў грамадстве. У 1994 г. у першых класах 75,3% дзяцей ужо навучаліся па-беларуску. У Менску ў 1994 г. было 58,6% беларускамоўных першакласнікаў (у 1998 г. — 4,8%).

Гэта вынік антынацыянальнай палітыкі цяперашняй беларускай улады ў адносінах да культуры і адукацыі.

На працягу шасці год афіцыйныя СМІ, насуперак фактам, літаральна ўдзёўбвалі ў свядомасць людзей думку пра тое, што беларусаў на Беларусі ўжо меншасць. Спасылаючыся на рэферэндум 1995 г., праведзены незаконна і з вялікімі юрыдычнымі парушэннямі, А.Лукашэнка неаднаразова спрабаваў давесці, што на Беларусі засталося 33-35% русіфікаваных беларусаў, што з нецярпеннем чакаюць магчымасці ўвайсці ў еўразійскі расейскі кацёл.

Чакалася, што перапіс насельніцтва паставіць кропку ў гэтай справе і пацвердзіць «тэарэтычныя» вышукі кіраўніка дзяржавы, а гэта, у сваю чаргу, палегчыць абгрунтаванне аб'яднання з Расеяй і будзе спрыяць вялікім асабістым палітычным планам А.Лукашэнкі.

Вынікі перапісу 1999 г. сталіся такімі нечаканымі, што афіцыйна іх амаль нідзе не ўзгадваюць. Праз год пасля перапісу высветлілася, што на глебе вольнага волевыяўлення 81,2% насельніцтва назвалі сябе беларусамі, 85% з іх роднай мовай лічаць беларускую, а 41,6% карыстаюцца беларускай мовай у побыце.

Такім чынам, пад час перапісу насельніцтва, па сутнасці, быў праведзены рэферэндум адносна самаідэнтыфікацыі беларусаў і іх адносінаў да роднай мовы. Тым не менш, афіцыйная ўлада (якая, па азначэнні, служыць народу) дагэтуль з выключнай упартасцю выступае супраць адкрыцця на Беларусі адзінага (!) універсітэта, які б працаваў цалкам на беларускай мове. Улада не робіць нават спробаў дзеля пашырэння сеткі беларускіх школ у гарадах. Наадварот — вясковыя школы пераводзяцца ў шэраг рускамоўных.

Цікавыя адносіны нашага «саюзніка» Расеі (якая ўважліва сочыць за тутэйшымі падзеямі) да культурна-этнічнай сітуацыі на Беларусі. Расея, у прыватнасці, вельмі клапоціцца пра захаванне расейскай мовы ў краінах СНД, што натуральна. Але хваравіта ставіцца да адраджэння ўкраінскага на Украіне і спрыяе русіфікацыі на Беларусі. Гэта і зразумела. Расейскія палітыкі і праімперскія колы не хаваюць выпрацаваных раз назаўсёды з часоў Івана III адносінаў да Беларусі — далучаць і асіміляваць; другая, так бы мовіць, дэмакратычная частка Расеі жадае нас абняць так моцна, каб задушыць у брацкіх абдымках.

**В.Арлоў, старшыня Віцебскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.**

ЧАРОЎНАЯ КРАІНА

# Глядзіце, хто да нас прыехаў



Стваральнікі аднаго з першых лялечных спектакляў у Віцебску. У другім шэрагу другі справа — Віктар Клімчук.

Ці ведаеце вы, што ў нашым горадзе ёсць свой Карабас-Барабас? Безумоўна, аб прысутнасці стваральніка і натхніцеля тэатра лялек здагадацца няцяжка, хаця б успомніўшы пра наяўнасць у горадзе згаданай установы. Аднак нямногія ведаюць, што з'явіўся «Карабас» у Віцебску роўна 15 год таму, у верасні 1985-га. Мастацкі кіраўнік «дарослага» тэатра імя Я.Коласа Валеры Мазынскі ды дырэктар Геральд Асвяцінскі надумалі распачаць выхаванне будучага «драмаўскага» гледача ледзь не з пялюшак, стварыўшы пры тэатры лялечную трупу. І гэта ўжо потым, праз 5 год, адчуўшы ўласную сілу і добра-такі акрыяўшы пад апекай акадэмічнага тэатра, лялечнікі выявілі характар і аддзяліліся, пакінуўшы імянітых бацькоў. А ў 85-м Віцебск меў толькі аднаго руплі́ўца на ніве старажытнага мастацтва тэатра лялек — Віктара Клімчука. Малавядомага яшчэ рэжысёра мала хто ўспрымаў усур'ёз. З вышыні свайго вопыту глядзелі на яго артысты драмы.

Мабыць, з-за таго, што «Карабас-Барабас» вымушаны быў не толькі працаваць, але і жыць у акадэмічным будынку на Замкавай,2. А можа, з-за таго, што Віцебск занадта доўга не ведаў, што такое прафесійны лялечны тэатр. Не ведаючы гэтай традыцыі, не разумеючы складанай мовы лялечных вобразаў, не навучыўшыся думаць і спасцігаць адвечныя ісціны, гледзячы на «нежывыя прадметы» на сцэне, выраслі дзеці, старэлі дарослыя, змяняліся многія пакаленні ў горадзе над Дзвіной.

Гэта «непрыманне» невядомай, а таму малазразумелай гледачу эстэтыкі адчуваецца і зараз. Ужо шырока вядомы ў горадзе, краіне і за межамі Віктар Клімчук з трывогай разважае, ці прымуць, ці пойдуць дарослыя гледачы ў тэатр лялек на «Ладдзю роспачы»—адзіны пакуль што спектакль, пастаўлены выключна для іх. 15 год таму такія думкі рэжысёра яшчэ не турбавалі. Найвялікшай праблемай для Віктара Клімчука было дастукацца да сэрцаў маленькіх гледачоў. І гэта атрымалася як нельга лепш. Сёння для дзяцей «Лялька»—ледзь не культавая ўстанова, куды можна хадзіць хоць кожны дзень, спектаклі ў якой можна глядзець па некалькі разоў. І як не надакучыць? Не надакучае таму, што рэжысёр Віктар Клімчук зразумеў адзін сакрэт, якім дзеліцца з задавальненнем: тэатр для дзяцей павінен мяняцца ўвесь час. І справа не ў тым, што звыклая эстэтыка прыядаецца маленькаму гледачу. Статычнасць, нязменнасць, на думку Клімчука, шкодзяць і самому творчаму калектыву. Этапы марыянетачнага і музычнага тэатра «Лялька» ўжо мінула. Чым здзівіць Клімчук далей? Глыбока псіхалагічнымі спектаклямі, якіх у рэпертуары ўжо нямала, альбо дзіўным сімбіёзам усіх лепшых знаходак у галіне эстэтыкі, што з'явіліся ў багажы рэжысёра за такія доўгія, ці, можа, такія кароткія 15 год?

Часта Клімчук узгадвае, як набіраў у групу сваіх першых артыстаў. Толькі двое з іх мелі спецыяльную, лялечную, адукацыю. З астатніх ён сваімі рукамі «ляпіў» лялечнікаў, за матэрыял узяўшы выпускнікоў вучылішча мастацтваў. І вылепіў, стварыў. Зараз такой трупай, як у Віцебску, мог бы ганарыцца любы тэатр. Нельга не зайздросціць запалу, весялосці, працаздольнасці артыстаў «Лялькі», той вялікай станоўчай энергіі, якую выпраменьвае ўвесь калектыў.

У Віцебску стала добрай традыцыяй адзначаць свята «Лялькі» — красавіцкі дзень, калі быў адыграны першы спектакль. Сапраўды, гэта вельмі значная дата для ўсяго тэатральнага мастацтва горада, ды варта было б, хай і не так грунтоўна адзначаць, але хаця б узгадваць і той верасень 85-га, калі ў Віцебск прыехаў чалавек, здольны падарыць гораду дзівосную і чароўную рэч — тэатр, дзе ажываюць лялькі.

**Вікторыя ДАШКЕВІЧ**

СТАРАЯ КАРЧМА

# Верасовы мёд

На сённяшні дзень склаўся пэўны стэрэатып напою, што называецца півам. Мы паспрабуем крыху пашырыць чытацкі кругагляд у дачыненні да піва і на далейшае словам «піва» будзем азначаць алкагольны напой, прыгатаваны з соладу, дрожжаў і вады. Што ж такое солад? Дзеля прыгатавання соладу зерне прарошчваецца, дробіцца і настойваецца. Такі працэс мае назву «саладаванне». Чаму выкарыстана слова «зерне»? Ды таму, што розныя народы выкарыстоўвалі дзеля прыгатавання піва рознае зерне. У асноўным гэта ячмень і пшаніца, радзей — іншая збажына і рыс. Дзеля надання асаблівага смаку ў некаторыя сарты піва дадаюць мёд, разнастайную садавіну, травы і спецыі. Упершыню пра прыгатаванне напою, што падыходзіць пад азначэнне піва, узгадваецца ў Месапатамскай табліцы 7000 г. да н.э., дзе падаецца рэцэпт прыгатавання «віна з зерня». Але немагчыма дакладна вызначыць, якое месца на зямлі сталася калыскаю піва, і што ўсё ж такі чалавецтва прыгатавала раней — піва ці хлеб. Жыхары Месапатаміі і Егіпту ўпершыню выкарысталі працэс прыгатавання соладу з зерня. Грэкі ж варылі піва з неапрацаванага зерня аж да запазычыння тэхналогіі прыгатавання ў егіпцянаў. Нямашака пэўных звестак аб прыгатаванні піва на тэрыторыі сучаснай Брытаніі да яе акупацыі плямёнамі англа-саксаў.

Але пры гэтым вядома, што тэўтонскія і кельцкія плямёны выраблялі МЁД (MEAD) з пчалінага мёду і пшаніцы. Ангельскае слова «BEER» пайшло ад кельцкага «BEOR», якім азначаўся працэс прыгатавання піва ў кляштарах Паўночнай Галіі. Менавіта гальскія манахі ўпершыню пачалі дадаваць у піва хмель. Варта крыху разабрацца з тэрміналогіяй. Па-беларуску праблемаў няма — усё называецца ПІВАМ. Блытаніна з тэрміналогіяй пачынаецца з наклеек па-ангельску: BEER, ALE, LAGER, STOUT... Як іх адрозніць? І як з назвы зразумець, што ўяўляе сабою тое ці іншае піва на смак? Пра гэта ў наступных нумарах.

Рэдакцыя газеты будзе радая атрымаць ад вас любыя цікавыя звесткі і навіны на наш пэйджар: тэл. 235-000 аб. 473

Шукаем добраахвотнікаў дзеля правядзення кантролю за выбарамі ў Палату прадстаўнікоў! Тэл. 21-62-35



**Заснавальнік:**
**ГА «Цэнтр Маладзёжных Ініцыятываў «Контур»**
**Адрас для допісаў:**
**210038, г. Віцебск, п/с 5**
**Тэлефон/факс:**
**/0212/ 21-62-35**
**E-mail: kontur@vitebsk.net HTTP: www.vitebsk.net/kontur**

ВІЦЕБСКАЯ ТРЫБУНА

**Галоўны рэдактар: Сяржук Серабро**
**Рэдакцыя з аўтарамі ў перапіску не ўступае, рукапісы не вяртае і не рэцэнзуе.**
**За дакладнасць апублікаваных матэрыялаў адказнасць нясуць іх аўтары.**
**Друк: ВА Фонд ім. Льва Сапегі.**
**На правах рукапісу, для унутраннага карыстання.**